СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.11, 20.09, 19.58;
Віцебск — 5.59, 20.02, 14.03;
Магілёў — 6.01, 19.58, 13.57;
Гомель — 6.03, 19.50, 13.47;
Гродна — 6.29, 20.21, 13.52;
Брэст — 6.31, 20.21, 13.50.
МЕСЯЦ:
Маладзік
28 жніўня
ІМЯНІНЫ:
Дзяміда;
Яна, Сабіны.

# ЗВЯЗДА

29 ЖНІЎНЯ 1992 г.
СУБОТА, № 174 (21952)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ХЛЕБ ЁСЦЬ. ЦІ БУДЗЕ БУЛЬБА?

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (У. Пернікаў). Не спраўдзіліся апасенні, што з-за нізкіх закупачных цэн на збожжа многія гаспадаркі вобласці затрымаюць продаж яго дзяржаве. Гэтымі днямі пры запланаваных 266 тысячах тон прададзена ўжо каля 268 тысяч тон. Як мяркуецца, у дзяржаўныя засекі збожжа паступіць яшчэ больш, бо некаторыя раёны працягваюць продаж яго. На чарзе нарыхтоўка бульбы, ураджай якой сёлета ў вобласці значна горшы, чым збажыны.**

### ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

#### НАРОДНАЯ АДУКАЦЫЯ

У мінулым навучальным годзе з 5.067 школ Беларусі на нацыянальнай мове працавала 3.278 школ, на рускай — 911, з дзвюма мовамі — 678 школ. З гэтага года колькасць вучняў, што навучаюцца на беларускай мове, узрасце прыкладна на 25 працэнтаў. Дададзім таксама, што ў 225 школах рэспублікі каля 10 тысяч вучняў 1—9 класаў будуць вывучаць польскую мову.

### УВАГА!

**31 жніўня ў 19.40 Беларускае тэлебачанне праводзіць «прамую лінію» з кіраўніцтвам Міністэрства адукацыі. Тэма — пачатак новага навучальнага года.**

**Удзел у «прамой лініі» прыме і «Звязда». Адказы на найбольш актуальныя пытанні мы надрукуем на старонках газеты.**

**Запрашаем вучняў і іх бацькоў, педагогаў, студэнтаў і ўсіх зацікаўленых сачыць за эфірам і нашымі публікацыямі.**

# КДБ—не хата-чытальня

**«Прамая лінія» чытачоў «Звязды» са старшынёй КДБ Беларусі Эдуардам Шыркоўскім адбылася. Эдуард Івановіч пастараўся адказаць на максімум вашых пытанняў. Гэтыя адказы мы і змяшчаем на старонках газеты. Спадзяёмся, што яны не застануцца па-за вашай увагай. Э. Шыркоўскі згадзіўся адказаць таксама на тыя пытанні чытачоў «Звязды», якія з'явяцца пасля публікацыі «прамой лініі».**

**— У Расіі створана Міністэрства бяспекі, якое аб'ядноўвае КДБ і МУС фактычна ў адну службу. Ці будзе нешта падобнае ў нас?**

**Ніна Лясных,**
**г. Барысаў.**

— Паважаны чытач тут не зусім мае рацыю. Указ Ельцына аб аб'яднанні гэтых двух ведамстваў быў адменены Канстытуцыйным судом Расіі як незаконны. Думаю, што нашы заканадаўчыя ўлады на падобнае не пойдуць. Гэта не адпавядала б ні інтарэсам службы дзяржаўнай бяспекі, ні ўнутраных спраў. У зман у гэтым пытанні некаторых грамадзян уводзіць тое, што Міністэрства бяспекі Расіі ўзначаліў былы міністр унутраных спраў В. Баранікаў — але ж гэта, відаць, зусім не адно і тое ж, што аб'яднанне.

**— Ці можна прыблізна даведацца, колькі пазаштатных супрацоўнікаў у беларускім камітэце бяспекі і колькі ім плацяць за каштоўную інфармацыю?**

**Г. Супрун,**
**г. Брэст.**

— Гэтыя лічбы ніводная паважаючая сябе спецслужба не афішуе. Не будзем гэтага рабіць і мы. Тым больш што колькасць памочнікаў залежыць ад вырашэння канкрэтных задач на даным этапе. Мы маем сёння іх столькі, колькі дыктуецца неабходнасцю забеспячэння дзяржаўнай бяспекі. Што тычыцца аплаты — то супрацоўнічаюць з намі людзі на добраахвотнай, бясплатнай аснове, якія лічаць дапамогу ў справе ўмацавання бяспекі сваёй Радзімы вышэйшым грамадзянскім абавязкам. І гэта, паверце, не толькі высокія словы. Але мы маем правы і сродкі для заахвочвання асабліва каштоўных памочнікаў, у тым ліку прадстаўляўшых значную інфармацыю.

**— Колькі цяпер складае зарплата радавога супрацоўніка КДБ?**

**Аляксандр Валасевіч,**
**г. Мінск.**

— Зарплата супрацоўніка КДБ, як і іншых ваеннаслужачых, складаецца са службовага акладу, акладу за званне і працэнтнай надбаўкі за выслугу гадоў. Для оперработніка сярэдняга звяна службовы аклад складае, напрыклад, 4800 рублёў, плюс за званне. Скажам, старшы лейтэнант атрымлівае 900 рублёў (выплаты за воінскае званне, як і ў ваеннаслужачых арміі, унутраных спраў). Як бачыце, міфічных «дзесяткаў тысяч» няма. Хачу дадаць, што нашым супрацоўнікам забаронена сумяшчальніцтва, прадпрымальніцтва і іншыя спосабы пабочнага заработку. Мы, на здзіўленне некаторых фінансавых чыноўнікаў, не ставім пытанне аб павелічэнні заработнай платы не таму, што задаволены сваім грашовым і матэрыяльным утрыманнем, а таму, што вельмі добра ведаем стан дзяржаўнага бюджэту і тыя многія катэгорыі працаўнікоў, якія атрымліваюць менш. Таму мы не скардзімся і не прэтэндуем на нейкае льготнае забеспячэнне. Хаця, заўважце, Камітэт дзяржаўнай бяспекі не толькі спажывецкая арганізацыя. Здабываемая КДБ інфармацыя часта каштуе значна больш за ўсе выдаткі, якія ідуць на наша ўтрыманне, а сёе-тое з матэрыяльных і грашовых каштоўнасцей мы прама вяртаем дзяржаве. Толькі за 7 месяцаў бягучага года ад кантрабандыстаў і іншых злачынцаў намі вернута больш за 100 мільёнаў рублёў.

**— Ва ўсіх цывілізаваных краінах сувязь са службай бяспекі разглядалася як непрыступны бар'ер для палітычнай ці іншай сур'ёзнай кар'еры. Спісы тых, хто супрацоўнічае з КДБ, так і застануцца тайнай за сямю пячаткамі?**

**Уладзімір Луцэнка,**
**г. Салігорск.**

— Так, у цывілізаваных краінах сувязь са спецслужбай замежнай краіны разглядаецца не толькі як бар'ер для палітычнай ці іншай кар'еры, але як цяжкае дзяржаўнае злачынства. Але, каб сувязь са службай бяспекі сваёй дзяржавы з'яўлялася нейкім крыміналам, я не чуў. Назавіце мне якую-небудзь канкрэтную дзяржаву цывілізаванага свету, дзе б так было, акрамя працэсаў у некаторых краінах былога Саюза і Усходняй Еўропы? Наадварот, я вам назаву шэраг вядучых дзяржаў, у тым ліку ЗША, Англія, дзе асоба, выдаўшая сувязь грамадзяніна са сваёй спецслужбай, караецца пазбаўленнем волі на працяглы тэрмін ці вялікім штрафам ад 50 тысяч долараў і больш. Такім чынам, ніякага абнародавання такіх спісаў ці асобных прозвішчаў не будзе і не павінна быць ніколі, калі толькі сам наш памочнік не пажадае гэта зрабіць, як, напрыклад, агент «Яніс», які доўгі час супрацоўнічаў з КДБ Латвійскай ССР. У артыкуле «Я — агент «Яніс», на мой погляд, многія зацікаўленыя чытачы могуць атрымаць адказы на свае пытанні, як кажуць, з першых рук.

Калі раздаецца чарговае патрабаванне аддаць галоснасці, а то і пад суд агентуру КДБ, рассакрэціць дакументы, разграміць нашы архівы, я заўсёды думаю, каму гэта выгадна?

**— Неяк вы заявілі, што замежныя спецслужбы актывізавалі сваю дзейнасць у адносінах да Беларусі. У чым праяўляецца гэтая актывізацыя: навадненне шпіёнаў, дыверсіі — што яшчэ?**

**Аляксандр Агурцоў,**
**г. Мінск.**

— Аб тым, што разведдзейнасць супраць краін былога Саюза будзе ўзрастаць, не ўтойваюць кіраўнікі ЦРУ, БНД (Германія), СІС (Англія) і інш., патрабуючы ад улад павелічэння асігнаванняў для сваіх ведамстваў. У прэсе аб гэтым неаднаразова паведамлялася. Да Беларусі, з улікам яе стратэгічнага становішча, цікавасць у спецслужб заўсёды была высокай, але зараз яна яшчэ больш павялічылася. Гэта мы адчуваем у штодзённай працы: рэзка павялічылася колькасць кантактаў іншаземцаў з нашымі грамадзянамі, арганізацыямі, установамі, фірмамі; ёсць інфармацыя, якая сведчыць аб спробах атрымаць звесткі ваеннага, прамысловага, навукова-тэхналагічнага і іншага характару, якая, вядома, з'яўляецца сакрэтнай і г. д. Паверце, мы не хварэем «шпіёнаманіяй», і я добра ўсведамляю, аб чым гавару. Таму, калі наша дзяржава хоча ў поўнай меры абараніць свой суверэнітэт і незалежнасць, мы ўсе разам павінны мацаваць і актывізаваць дзейнасць сваёй спецслужбы.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

### З МАГАЗІНА—НЕ З ПУСТЫМІ РУКАМІ

**Хочаш жыць, паспяхова працаваць — варушыся. Такога прынцыпу прытрымліваюцца работнікі гандлю Шклоўскага раёна. Каб папоўніць у нейкай ступені недахват тавараў, у райспажывсаюзе стварылі так званую рабочую групу. Яна займаецца наладжваннем сувязей напрамую з вытворцамі тавараў.**

За кароткі час рабочая група здолела дадаткова закупіць тавараў больш чым на 20 мільёнаў рублёў. Так, напрамую паступаюць з Барысава эмаліраваны посуд, з Крычава — наборы для кухні, з Віцебска і Гомеля — кандытарскія вырабы, з Гродна — тытунёвыя вырабы, з Магілёва — паліто жаночыя.

Намеснік старшыні праўлення райспажывсаюза Ніна Кавалёва сказала, што пошук пастаўшчыкоў працягваецца. Сёння ўжо ёсць дагаворы на пастаўку тавараў з Гомельскім заводам эмальпосуду, мінскім тэлевізійным «Гарызонт», Добрушскім прадпрыемствам фарфоравых вырабаў, віцебскай абутковай фабрыкай «Чырвоны Кастрычнік» і іншымі.

**Л. АНЦІПЕНКА.**

### Хто дапаможа набыць дызель-поезд

МАГІЛЁЎ. У сувязі з тым, што колькасць дачнікаў сёлета павялічылася ў паўтара раза, адпаведна ўзрос і пасажырапаток на прыгарадных маршрутах, якія прыносяць Магілёўскаму аддзяленню чыгункі мільённыя страты. Як сведчыць інфармацыйны цэнтр аблсавета, чыгуначнікі не маюць магчымасці палепшыць абслугоўванне пасажыраў, таму што не хапае дызель-паяздоў. Ды і тыя, што курсіруюць цяпер, прыпісаны да станцый Орша і Баранавічы. Пералічваючы ў дзяржбюджэт па 14—15 мільёнаў рублёў кожны месяц, аддзяленне чыгункі не можа дазволіць сабе раскошы набыць дызель-поезд, бо каштуе ён цяпер ні многа ні мала 32—35 мільёнаў рублёў. Таму і звяртаюцца кіраўнікі чыгункі да багатых прадпрыемстваў вобласці і ўлад з просьбай: дапамажыце купіць дызель-поезд. Трэба сказаць, што летась з бюджэту ўжо было выдзелена 12 мільёнаў рублёў на набыццё 14 вагонаў для перавозкі магілёўскіх дзяцей у экалагічна чыстыя раёны.

### ЧАМУ БЫЦЬ, ТАГО НЕ АБМІНУЦЬ?

**МІНСК. З колаў, блізкіх да кіраўніцтва Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, да нашага карэспандэнта паступілі звесткі аб тым, што ў хуткім часе (хутчэй за ўсё з 1 верасня 1992 года) на тэрыторыі рэспублікі, магчыма, будзе абвешчаны свабодны продаж валюты. У сувязі з гэтым курсы валют узрастуць. Чакаемы курс долара на верасень — кастрычнік складзе 220—250 рублёў.**

### БОЙКА НА МАГІСТРАЛІ

БРЭСТ. (Ю. Фёдарава). Літаральна так можна ахарактарызаваць аўтакатастрофу, якая адбылася на аўтастрадзе Брэст — Масква. Глыбокай ноччу, асляпіўшы адзін аднаго фарамі, сустрэчныя машыны ўрэзаліся ў статак. Каровы невядома як аказаліся ў гэты час на магістралі. Загінулі і паранены дзесяткі жывёлін. «Хуткай дапамогай» накіраваны ў бальніцу пацярпеўшыя людзі.

### ДА ВЕДАМА ТЫХ, ХТО ПРАВОДЗІЦЬ У РЭСПУБЛІЦЫ ПАДПІСКУ НА «ЗВЯЗДУ»!

**З мэтай данесці роднае слова да як мага большай колькасці жыхароў рэспублікі рэдакцыяй газеты прынята рашэнне аб прэміраванні паштальёнаў і работнікаў «Саюздруку», якія будуць сёлета весці падпіску на «Звязду». Памер прэміі — 5 працэнтаў ад агульнага кошту прынятай падпіскі. Выплату па выніках падпіскі будуць праводзіць арганізацыі, у якіх працуюць распаўсюджвальнікі друку. Туды паступяць адпаведныя сродкі.**

**Спадзяёмся, што наш крок будзе з разуменнем успрыняты ўсімі, каму дарагое нацыянальнае адраджэнне.**

**РЭДАКЦЫЯ.**

КАМАНДЗІРОЎКА НА ВАЙНУ

# АБХАЗІЯ: КРЫВАВЫ ЖНІВЕНЬ

**КАРЭСПАНДЭНТ «ЗВЯЗДЫ» ВАЛЯНЦІН ЖДАНКО ПЕРАДАЕ З ЗОНЫ КАНФЛІКТУ**

Гудаута — невялікае мястэчка ў цэнтры Абхазіі за сорак пяць кіламетраў ад Сухумі. З некаторага часу пасля таго, як у Сухумі ўвайшлі грузінскія танкі, гэты гарадок ператвараецца ў своеасаблівую новую сталіцу Абхазіі — маленькай горнай краіны, якой, падобна, наканавана спаўна паспытаць горкую чашу вайны.

У Гудауту мы едзем разам з адным з жыхароў Піцунды, які згадзіўся падвезці мяне па гэтай зусім не небяспечнай дарозе і дапамог адшукаць тых, хто ў гэтыя трагічныя дні кіруе часткай Абхазіі, якая не занята грузінскімі войскамі (прозвішча не называю па вядомых прычынах).

Шаша, якая звязвае ўсё паўднёвае ўзбярэжжа Абхазіі ад Ліселідзе да Ачамчыры — нязвыкла пустынная для гэтага часу года. Рэдкія сустрэчныя машыны праносяцца міма на вялікай хуткасці. Многія — без нумарных знакаў. (Спроба засакрэціць сваю прыналежнасць ці то да Абхазіі, ці то да Грузіі). Асцярожнасць гэта, бадай, зусім не лішняя. Шматлікія ўзброеныя пасты, якія перагароджваюць шашу амаль ля кожнага населенага пункту, у залежнасці ад сімпатыі да аднаго ці другога боку наладжваюць праверкі або абмяжоўваюцца ўзмахам рукі: маўляў, праязджай.

На дарозе ад Піцунды да Гудауты пасты выключна абхазскія, і гэта аблягчае шлях майму праважатаму, якога тут многія добра ведаюць. На шашы пешы чалавек без зброі — хутчэй выключэнне, чым правіла. Паўваенныя фарміраванні абхазскай самаабароны, якія створаны, напэўна, у кожным сяле і мястэчку, — відовішча аднначасова і экзатычнае, і грознае. Апрануты хто ў што, узброены хто чым. Часцей, аднак, убачыш не аўтаматы, а ружжы — двухстволкі, абрэзы, бярданкі...

Гудаута запоўнена гэтымі людзьмі і гэтай зброяй. У цэнтры мястэчка пасты на кожным кроку. У некалькіх кіламетрах адсюль — лінія абароны. Я бачыў стомленых, даўно няголеных мужчын, якія толькі што вярнуліся з акопаў. Перастрэлкі ў апошнія дні, на шчасце, не дужа частыя. Але ахвяры ёсць. Чуў, як у штабе двое гаварылі пра тое, як пасля разрыву снарада ад аднаго з іх таварышаў засталася лужына крыві і акрываўленыя шматкі. Абмяркоўвалі, як яго цяпер пахаваць.

Чутак, плётак, жахлівых расказаў пра жудасці, што творыцца ў зоне канфлікту, — хоць адбаўляй. Аднак наўрад ці варта на веру прымаць усе з іх. Вочы абхазца і вочы грузіна глядзяць і бачаць у сённяшняй Абхазіі розную праўду. Таму буду пісаць толькі пра тое, што бачыў уласнымі вачыма.

...Я прыехаў у Гудауту на наступны дзень пасля таго, як канал «Астанкіна» перадаў паведамленне аб роспуску Вярхоўнага Савета Абхазіі і добраахвотнай адстаўцы Старшыні Вярхоўнага Савета Уладзіслава Ардзынба. Таму для мяне было нечаканасцю ўбачыць Старшыню парламента ў яго рабочым кабінеце.

— Гэта няпраўда ад першага да апошняга слова, — пракаменціраваў ён тэлепаведамленне. — Змясціць мяне можа толькі парламент. Асабіста я ні за што не падам у адстаўку ў такой сітуацыі.

Уладзіслаў Ардзынба расказаў мне пра тэлефонную размову з Эдуардам Шэварднадзе, якая адбылася напярэдадні. Па словах старшыні абхазскага парламента, лідэр Грузіі прапанаваў яму стварыць для часовага кіраўніцтва Абхазіяй нешта накшталт Кансультатыўнага Савета. На што Уладзіслаў Ардзынба сказаў, што новага Дзяржсавета па ўзору тбіліскага Абхазіі не трэба.

— Я сказаў Шэварднадзе: «Вы можаце прайсці танкамі праз усю Абхазію. Але майце на ўвазе, — мы пачнём партызанскую вайну і будзем змагацца супраць акупацыі, пакуль вы не выведзеце войскі».

На думку Уладзіслава Ардзынба, у планах грузінскага кіраўніцтва было ажыццявіць у адносінах да Абхазіі бліцкрыг: у сціслыя тэрміны з дапамогай зброі захапіць тэрыторыю, змяніць дзяржаўную ўладу ў Абхазіі, скасаваць законныя структуры ўлады. Гэты план пачаў ажыццяўляцца: Сухумі ў руках грузінскіх ваенных, малінавы флаг — над будынкам Вярхоўнага Савета Абхазіі. Чаму Дзяржсавет не пайшоў на большае? Танкі, верталёты, ваенны флот супраць аўтаматаў і двухстволак — аргументы больш чым пераканаўчыя. Ісціна, аднак, у тым, што танкі, — нават калі іх паставіць на кожным скрыжаванні, — не вырашаць праблему. Паўночна-каўказскія рэспублікі заявілі аб сваёй падтрымцы Абхазіі і ўжо вядуць набор добраахвотнікаў. Абхазскія сілы самаабароны, — якімі б слабаўзброенымі яны не былі, — не складуць зброі. Яны гатовы падняцца ў горы, — і тады Абхазія можа ператварыцца ў тое, чым была Беларусь у гады Вялікай Айчыннай. Прывід другой каўказскай вайны ўжо блукае па гарах. Ці ўдасца пазбавіцца ад яго?

Наўрад ці ў Тбілісі не бачылі рэальнасці такой пагрозы. Чаму ж менавіта танкі і верталёты сталі сродкам «зацугляння» Абхазіі? Ці сапраўды была такой вялікай небяспека пацярпець тэрытарыяльныя страты, што дзеля яе стала магчымым праліваць кроў?

Час канчатковага аналізу наперадзе, пасля дэталёвага вывучэння ўсіх абставін пачатку канфлікту. Аднак ужо сён-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### Трагедыя на сельскай ускраіне

Трагічна закончыліся канікулы для 9-гадовай мінчанкі Жэні Кабяльчук. Яна прыехала ў госці да бабулі ў вёску Азярычы Пінскага раёна. Гуляючы з сябрамі на ўскрайку вёскі, Жэня ўпала ў яму з вадкім бітумам. Выратаваць яе не ўдалося. Узбуджана крымінальная справа. Неабходна высветліць, па чыёй віне яма аказалася не агароджанай.

## РАДЫЁ ФАКТ

У Беларускіх банках грошы выкарыстоўваюцца неэфектыўна: такая думка амерыканскага банкіра Джэфры Мілікана, які восем тыдняў працаваў па кантракту ў Беларускім Знешэканомбанку. Зараз Мілікан падпісаў кантракт на два-тры гады і будзе працаваць у Нацыянальным банку рэспублікі.

Амерыканскі банкір лічыць, што банкаўская сістэма ў Беларусі развіта добра. Узровень падрыхтоўкі банкаўскіх работнікаў дастатковы, аднак мала ведаў і вопыту ў галіне банкаўскіх аперацый Захаду. І яшчэ: Джэфры Мілікан лічыць, што ў магазінах і на рынках дастаткова тавараў, аднак дрэнна, што цэны растуць хутчэй, чым зарплата, — гэта ненармальна. Банкіры і прадпрымальнікі павінны ведаць, якая форма інфляцыі будзе праз шэсць месяцаў, праз два гады. Мэта Джэфры Мілікана ў нашай рэспубліцы — падрыхтаваць добрых работнікаў для вядзення банкаўскай справы. У цэлым жа амерыканскі банкір станоўча адзываецца аб нашай рэспубліцы і лічыць, што яе становішча лепшае, чым у іншых краін СНД.

***

**«Крадуць зараз усё»—гэты крылаты выраз, бадай, хутка стане эпіграфам да нашага жыцця. Цяпер у рэспубліцы развялося вельмі многа паляўнічых за каляровымі металамі. У Маладзечанскім раёне б'юць трывогу сувязісты. Зладзеі дабраліся і да паветраных ліній сувязі. У ліпені былі зняты правады ў напрамку Вілейкі, Радашковіч і вёскі Засвічы. Маладзечанскі раённы вузел сувязі панёс страты ў паўтара мільёна рублёў. Акрамя гэтай лічбы, ёсць і маральныя аспекты праблемы. Тыднямі не працуюць тэлефоны ў піянерскіх лагерах, садоўніцкіх таварыствах, вёсках раёна.**

***

Чым бліжэй да рынку, тым далей ад прагрэсу: жыхары вёскі Папаратнае Жлобінскага раёна перайшлі да дзедаўскага спосабу нарыхтоўкі паліва на зіму. Рыдлёўкай і рукамі летам яны здабывалі і выраблялі тарфяныя брыкеты. Высокі кошт гэтага паліва і прымусіў людзей звярнуцца да забытага раней рамяства.

***

**«Выкраданне веку» — так, відаць, можна назваць выпадак, што адбыўся ў Пермі ў аддзяленні сувязі № 68. Па тэлефоне жаночы голас папярэдзіў, што зараз прыедуць і забяруць мяшок з грашыма, каб пералічыць іх. Грошы былі прывезены для выплаты пенсій. Хутка прыйшоў мужчына, паказаў маршрутную накладную, у якой распісалася маладая тэлеграфістка, і знік з мяшком грошай. І ўсё.**

«ЗВЯЗДА»-93

# Вашы пісьмы—самы дакладны барометр жыцця

**«МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 77. РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА».**

Скажыце, паважаныя нашы падпісчыкі і чытачы, хто з вас не ведае гэтага адраса? Менавіта такі лаканічны, як тэлеграмны радок, значыцца надпіс літаральна на кожным канверце, што прыходзяць у рэдакцыю.

У сектары ўліку, куды паступае і дзе рэгіструецца кожны ліст, ёсць дакладныя даныя: штогод рэдакцыя атрымлівае звыш 30 тысяч пісьмаў. Мы падлічылі, што ў «Звязду», якой нядаўна споўнілася 75 гадоў, усяго за час яе існавання паступіла іх, паводле самых сціплых падлікаў, звыш **двух мільёнаў.** Два мільёны! Сама ўжо гэта лічба гаворыць і сведчыць аб многім.

Рэдакцыйная пошта... Так, яна багатая, разнастайная і шматбаковая. Здаецца, няма такога пытання, ад зусім дробязнага да праблемна-маштабнага, якое ў ёй не закраналася б. І ўсё правільна, заканамерна: **пісьмы — самы чуйны, дакладны барометр жыцця, жывы подых і пульс імклівага часу.** А калі так, то вашы допісы — неацэннае багацце, сапраўдны скарб для рэдакцыі. Гэта і бясконцы паток навін, свежых вестак, цікавай інфармацыі, і новыя адрасы для грунтоўных праблемных публікацый, і шматгалосая, шчырая размова на важныя тэмы, і, нарэшце, пастаянная з вамі сувязь.

У той жа час «Звязда» для вас, шаноўныя чытачы, застаецца той галоўнай і самай даступнай трыбунай, з якой вы можаце сказаць сваё важкае слова аб тым, што вас больш за ўсё хвалюе, выказаць па любому пытанню свае думкі, меркаванні, прапановы, узняць і паставіць тую ці іншую праблему, вырашаць якую трэба неадкладна. З улікам усяго гэтага аддзел пісьмаў і плануе ў новым годзе адкрыць на старонках газеты новую рубрыку **«Чытацкае веча».** Вядома, слова ў ёй атрымаюць тыя допісы, якія будуць мець агульнае, грамадскае гучанне, змогуць выклікаць шырокі рэзананс, паслужаць падставай для сур'ёзнага разгляду і прыняцця канкрэтных дзеянняў і мер.

У сваёй штодзённай рабоце мы кіруемся такім правілам: уважліва адносіцца і прыслухоўвацца да думкі кожнага аўтара, улічваць яе ў далейшай практычнай дзейнасці. Але не сакрэт, што любы чалавек на тую ці іншую падзею, з'яву, нават асобны факт глядзіць, як кажуць, са сваёй вежы, праз прызму свайго ўспрымання і разумення. Відаць, памятаеце, пісьмо пенсіянеркі П. Палаковай з г. Віцебска «Чаму не павысіць кватэрную плату?». Многія чытачы тады накінуліся і на аўтара, і на рэдакцыю за тое, што надрукавала гэты ліст. Але ж разам з тым атрымалася шырокая, зацікаўленая размова, у час якой былі закрануты важныя пытанні і праблемы.

Мы лічым: калі ў пісьме трапляецца хоць адна свежая, неардынарная думка ці прапанова, то для рэдакцыі гэта нечаканая знаходка, своеасаблівы падарунак. А тое, што выказванне бывае часам супярэчлівае, нават «правакацыйнае», то, калі ласка, давайце паспрачаемся, абмяркуем, паглядзім на яго з усіх бакоў. Менавіта з гэтай мэтай і завядзём дыскусійную рубрыку **«Давайце абмяркуем разам».**

Нікому не навіна, што за кожным пісьмом — чалавек. З яго радасцю і горам, з нявырашанымі для яго жыццёва важнымі пытаннямі і праблемамі. І ён у спадзяванні на аўтарытэт газеты, на сілу яе друкаванага слова, як у самую апошнюю інстанцыю звяртаецца ў рэдакцыю за дапамогай, просіць выехаць на месца карэспандэнта. І «Звязда» ніколі не пакідае такія сігналы без увагі. Накіроўвае іх у адпаведныя арганізацыі, установы і міністэрствы, аб чым затым паведамляе ў падборках «Ваша пісьмо атрымалі», «Вы прасілі дапамогі». У далейшым форму і змест іх пастараемся абнавіць, магчыма, «ахрысцім» па-новаму. Але адно застанецца нязменным: чалавека сам-насам з горам-бядой не пакінем.

А каб наша размова, наш дыялог працягваўся і быў самым шырокім, масавым, не забудзьцеся падпісацца на «Звязду» на 1993 год. Дамовіліся?

**Іван БРАЛКА,**
**рэдактар аддзела лісьмаў «Звязды».**

**Напамінаем: падпісная цана на «Звязду» на паўгода — 120, на квартал — 60, на 1 месяц — 20 рублёў.**

### НА «ЗВЯЗДУ» МОЖНА ПАДПІСАЦЦА СВАБОДНА. АЛЕ НЕ ЎСЮДЫ

**У рэдакцыю газеты звяртаюцца чытачы з-за межаў рэспублікі з просьбай растлумачыць правілы правядзення для іх падпіскі на «Звязду».**

**Як нам паведаміла начальнік аддзела распаўсюджвання друку дзяржаўнага аб'яднанага прадпрыемства «Мінская пошта» А. Чарняк, да пагаднення па распаўсюджванню перыёдыкі далучыліся Расія, Украіна, Казахстан, Кыргызстан, Узбекістан, Малдова, Літва, Латвія, Грузія. У гэтых рэспубліках на нашу газету можна падпісацца свабодна. Беларусам у іншых рэспубліках у падпісцы адмовяць, бо «Звязда» туды поштай дастаўляцца не будзе.**

**В. ХУРСІК.**

Ф. СП-1

**АБОНЕМЕНТ** на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"** — Количество комплектов: **1**

на **1993** год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия, инициалы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА**

ПВ | место | литер — на газету **63850** (индекс издания)

**„ЗВЯЗДА"**

| Стоимость | подписки | ____ руб. ____ коп. | Количество комплектов: | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | ____ руб. ____ коп. | | |

на **1993** год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ______ (почтовый индекс) ______ (адрес)

Кому ______ (фамилия инициалы)

# КДБ—не хата-чытальня

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**— З друку вядома, якая сітуацыя складваецца на беларуска-польскай граніцы. Нашы турысты падвяргаюцца нападзенням з боку рэкеціраў, іх рабуюць, праколваюць шыны аўтамабіляў, б'юць шкло, прычым часта гэта адбываецца на вачах польскіх паліцэйскіх. Між тым, у гэтым годзе падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі ўнутраных спраў абедзвюх краін. Ці мае намер КДБ умяшацца ў гэтую справу, каб пакончыць з сапраўдным бандытызмам, вядома, у супрацоўніцтве з адпаведнымі службамі Польшчы, Расіі, Украіны?**

**У. Лазарэвіч, г. п. Карэлічы.**

— У сучасны момант сітуацыя ў прыгранічны рэспубліцы застаецца напружанай. Вывучэнне аператыўнай інфармацыі і паступаючых скарг і заяў паказвае, што ў адносінах да грамадзян, што выязджаюць за граніцу, у прыватнасці ў Польшчу, а таксама прыязджаюць з-за мяжы ў Беларусь, учыняюцца злосныя злачынствы, у тым ліку з прымяненнем зброі. Гэта і іншыя пытанні барацьбы з арганізаванай злачыннасцю разглядаліся на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў у жніўні гэтага года.

З Польскай Рэспублікай у КДБ і МУС такога пагаднення няма, але яго распрацоўка вядзецца. Пакуль што расследаванне злачынства ў нашых грамадзян на польскай тэрыторыі мы праводзіць не можам. Праўда, мы стараемся супрацоўнічаць. Вось нядаўна з Польшчы былі дэпартаваны 6 мінскіх рэкеціраў, якія займаліся разбоем, разам з МУС Беларусі вядзём расследаванне.

Намаганнямі падраздзяленняў па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю КДБ і Міністэрства ўнутраных спраў арыштавана некалькі злачынных груп, у тым ліку ў прыгранічных раёнах. Будзем прымаць усе меры для абароны нашых грамадзян. Для гэтага створана спецыяльная група супрацоўнікаў.

**— Пасля падпісання дагавора аб супрацоўніцтве паміж спецслужбамі Беларусі і Украіны вы заявілі на прэс-канферэнцыі, што КДБ РБ не будзе працаваць супраць суседняй краіны, як і іншых дзяржаў СНД. Што значыць «супраць не будзе працаваць»? Хіба беларускае кіраўніцтва не зацікаўлена мець дакладную інфармацыю аб тым, як разгортваюцца падзеі ў краінах-суседках, якія сілы там прэтэндуюць на ўладу, чаго ад іх можна чакаць? Ад гэтага залежыць бяспека Беларусі.**

**Яўген Смаль, Навагрудскі раён.**

— Так, ва ўсіх двухбаковых пагадненнях аб супрацоўніцтве, у тым ліку і з Украінай, мы дамовіліся не весці разведвальную работу адзін супраць аднаго — гэта адзін з важнейшых прынцыпаў добрага суседства і ўзаемнага даверу. Безумоўна, нам не абыякава будзе тое, як разгортваюцца падзеі ў суседніх краінах. Таму пагадненнем прадугледжаны шырокі абмен разнастайнай інфармацыяй, якая цікавіць абодва бакі. Паверце, гэта ў нашых агульных інтарэсах. І гэта значна танней, чым рыхтаваць цэлую армію разведчыкаў для накіравання ў краіны СНД. Тым больш, ніколі не трэба забываць, што нас звязваюць агульныя карані, векавая дружба і братэрства народаў, і я вельмі спадзяюся, што мы ніколі не станем ворагамі. Заключэнне падобных пагадненняў у розных галінах і, падкрэсліваю, безумоўнае і поўнае іх выкананне абодвума бакамі — надзейны гарант бяспекі Беларусі.

**— Эдуард Іванавіч, на сваёй прэс-канферэнцыі вы прывялі прыклад, калі супрацоўнікі нашых спецслужб з розных рэгіёнаў зусім нядаўна назіралі за рухам некалькіх кантэйнераў з наркотыкамі, якія ішлі з Усходу праз Беларусь, і здалі іх заходнім спецслужбам. Увогуле, які кантакт з апошнімі ў нашага КДБ па праблеме наркабізнесу?**

**Уладзімір Бортнік, г. Магілёў.**

— Праблемы наркабізнесу і кантрабанды наркотыкаў перад намі і іншымі праваахоўнымі органамі стаяць вельмі востра. Гэтыя пытанні абмяркоўваліся ў рэспубліцы з удзелам прадстаўнікоў місіі ААН у красавіку 1992 года. Органамі дзяржбяспекі прымаюцца меры па барацьбе з распаўсюджваннем гэтай атруты на тэрыторыі рэспублікі, недапушчэнню ператварэння яе ў перавалачны пункт для далейшай транспарціроўкі ў іншыя краіны. За 6 месяцаў гэтага года выяўлены 4 факты кантрабанды наркотыкаў. Гэта нас не задавальняе, мы шукаем шляхі больш эфектыўнай работы і лічым неабходным аб'яднанне намаганняў усіх зацікаўленых ведамстваў, у тым ліку спецслужб замежных дзяржаў. Урадам Беларусі рыхтуюцца міжурадавыя пагадненні па прававых аспектах, абмену інфармацыяй. З іх заключэннем, я спадзяюся, мы зможам наладзіць пастаянныя рабочыя кантакты са спецслужбамі замежных дзяржаў, у тым ліку, безумоўна, па пытаннях барацьбы з наркабізнесам. Сёння такія магчымасці, на жаль, вельмі і вельмі абмежаваныя.

**— Цяпер можна спакойна купляць і прадаваць валюту. Ці азначае гэта, што КДБ адмовіўся ад усялякага кантролю за валютнымі здзелкамі і махінацыямі?**

**Міхаіл Печка, г. Стоўбцы.**

— Сапраўды, у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 23 красавіка 1992 года «Аб унясенні змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь», беларускія і замежныя грамадзяне атрымалі права пакупкі і продажу валюты на тэрыторыі рэспублікі. Але пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі «Аб часовым парадку рэгулявання і правядзення валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» прадугледжана, што ўсе валютныя аперацыі ажыццяўляюцца толькі праз упаўнаважаныя банкі. Любыя здзелкі па пакупцы і продажу валюты ў абход гэтых банкаў з'яўляюцца незаконнымі, а асобы, якія іх ажыццяўляюць, нясуць адказнасць ва ўстаноўленым законам парадку.

Камітэт дзяржаўнай бяспекі ва ўзаемадзеянні з іншымі праваахоўнымі органамі вядзе барацьбу з гэтымі відамі злачыннасці, асабліва з кантрабандай валюты, падробкай грашовых знакаў і парушэннем правіл аб здзелках з каштоўнымі металамі і камянямі.

**— Як стаць разведчыкам? Ці ёсць у Беларусі спецыяльныя навучальныя ўстановы, дзе рыхтуюць прафесіяналаў-чэкістаў, і куды звяртацца?**

**Леанід Кароль, Гродзенскі раён.**

— Ёсць такія навучальныя ўстановы, дзе рыхтуюць супрацоўнікаў КДБ. Акрамя Беларусі, мы, у адпаведнасці з двухбаковымі пагадненнямі, можам накіроўваць сваіх студэнтаў на вучобу ў іншыя краіны—члены СНД. Калі вы маеце грунтоўную адукацыю, выдатны стан здароўя, па пытаннях накіравання на вучобу і магчымасцях службы ў органах дзяржбяспекі, звяртайцеся ў раённыя, гарадскія па месцу жыхарства аддзелы КДБ ці абласныя ўпраўленні камітэта. Для мінчан таксама адкрыты дзверы прыёмнага пакоя КДБ Беларусі.

**— Якія віды зброі цяпер выкарыстоўваюць супрацоўнікі КДБ і ці займаюцца яны «убіраннем» непажаданых нашай дзяржаве асоб?**

**Сяргей Яўхімовіч, Пружаны.**

— Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларусі мае на ўзбраенні, у асноўным, агульнавайсковыя віды зброі ў адпаведнасці са штатным раскладам. Нейкіх там «супер» ці «экзатычных» узораў няма, хаця многія лепшыя дасягненні айчыннай прамысловасці ў гэтай галіне не міналі наша ведамства. Што датычыць «убірання непажаданых» — то гэтага ў КДБ рэспублікі не было, няма і не будзе. Мы рашучыя праціўнікі якіх бы там ні было тэрарыстычных метадаў барацьбы.

**— Якое дачыненне меў КДБ да псіхічнага тэрору на Беларусі і ці панеслі пакаранне вінаватыя?**

**Фёдар Калтуноў, г. Мінск.**

— Здаецца, ёсць такі выраз: «Вельмі цяжка шукаць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма». Я не ведаю, аб якім псіхічным тэроры наогул ідзе гаворка, але тое, што КДБ Беларусі тут не мае ніякага дачынення, скажу адназначна. Калі чытач мае на ўвазе магчымае накіраванне здаровага чалавека ў «псіхушку» — то з боку КДБ мне такія выпадкі невядомы. Калі вам які-небудзь рэальны факт вядомы — паведаміце мне, у праваахоўныя органы, ці ў камісію па правах чалавека. Другая частка пытання, такім чынам, адпадае сама.

**— Мой дзед быў расстраляны ў 1938 годзе ў Мінску. Аб гэтым мне далі вусную інфармацыю. Я хачу ведаць болей. Ці можна пазнаёміцца са справай? Дзеда звалі Славіян Іосіфавіч Пржэвальскі.**

**Аляксандр Пржэвальскі, г. Мінск.**

**— Ці дазволяць навуковым работнікам, якія вывучаюць творчую і грамадскую дзейнасць Ц. Гартнага, пазнаёміцца з усімі матэрыяламі на яго, якія знаходзяцца ў КДБ?**

**Пётр Клачко, г. Мінск.**

— Ужо дазволена. Навукоўцы інстытута гісторыі, літаратуры Акадэміі навук Беларусі займаліся вывучэннем матэрыялаў на пісьменнікаў, у тым ліку Ц. Гартнага (Жылуновіча), якія знаходзяцца ў КДБ. Мы і далей будзем праводзіць гэту работу, толькі хачу, каб мяне зразумелі, — архіў КДБ — не хата-чытальня і ўсім жадаючым, нават навуковым работнікам, мы пакуль не маем магчымасці задаволіць просьбы. У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі ад 1 лістапада 1991 года вы маеце права азнаёміцца з матэрыяламі рэабілітаваных блізкіх сваякоў, калі іх саміх ужо няма ў жывых. Ёсць тут, праўда, некаторыя абмежаванні — не падлягае азнаямленню тая частка матэрыялаў справы, ад якой могуць пацярпець урон іншыя асобы ці дзяржава. Для таго каб атрымаць матэрыял ці даведку па ім, трэба звярнуцца ў орган КДБ па месцу нараджэння ці апошняга жыхарства пацярпеўшага. Зразумела, калі гэтыя матэрыялы тычацца НКУС-КДБ.

Хачу дадаць, што ў заявах на азнаямленне з матэрыяламі трэба даць як мага больш дасканалых даных: прозвішча, імя і імя па бацьку, год і месца нараджэння, дзе і якім органам рэпрэсіраваны і г. д. Гэта дапаможа ў пошуку справы. Адзначаю, што сказанае датычыцца рэабілітаваных грамадзян.

**— 10 гадоў я прапрацаваў у сістэме органаў КДБ Літоўскай ССР, восем месяцаў працую тут, у Светлагорску. У мяне ёсць магчымасць параўнаць адносіны ведамаснага начальства ў Літве і Беларусі да патрэб аператыўнага саставу. У Літве гэтыя адносіны былі больш чалавечныя. У Светлагорску, акрамя начальства, ніводны работнік не мае кватэры. Мая жонка і дзеці да гэтага часу жывуць у Літве, за мяжой, мне няма куды іх перавезці, ездзіць туды-сюды вельмі накладна. А што будзе, як увядуць візы?**

**Што мае рабіць кіраўніцтва КДБ Беларусі ў плане аказання сацыяльнай дапамогі радавому аператыўнаму саставу? Я падаваў просьбы перавесці мяне бліжэй да літоўскай граніцы, але мне адмовілі ў гэтым.**

**Аляксей Хіхель, г. Светлагорск.**

— Для мяне гэта даволі нечаканае пытанне. Нечаканае ў тым сэнсе, што афіцэр, праслужыўшы 10 гадоў, павінен вельмі добра ведаць і выконваць Статуты воінскай службы і звяртацца да вышэйшага кіраўніцтва па камандзе, а не праз газету. Гэта па-першае. Па-другое, я не зусім разумею тав. Хіхеля, які ў сваім рапарце прасіў аб пераводзе ў любы раён Беларусі і самастойным вырашэнні жыллёвага пытання. Усім супрацоўнікам КДБ, якія пажадалі перавесціся ў Беларусь, мы адкрыта сказалі аб сур'ёзнай праблеме з жыллём: зараз у органах бяспекі рэспублікі налічваецца каля 400 супрацоўнікаў, у тым ліку і тых, якія не адзін год праслужылі ў Беларусі, маюць па двое дзяцей і чакаюць атрымання кватэры. А жадаючых вярнуцца ў рэспубліку для прадаўжэння службы — больш за 500 чалавек з розных рэгіёнаў былога Саюза. Парэкамендаваць я магу адно — зрабіць так, як вы і планавалі, як зрабілі нашы землякі, якіх мы перавялі з іншых рэспублік — прадаць кватэру там і купіць тут ці знайсці абмен. Прадаставіць дзяржаўную кватэру ў бліжэйшым будучым — няма магчымасці. І яшчэ. Не чакаў ад нашага супрацоўніка такой лёгкадумнасці ў пастаноўцы пытання чалавечнасці і нечалавечнасці адносін там і тут, ці забеспячэння кватэрамі «начальства» і іх адсутнасці ў «радавых». Пры ўсіх цяжкасцях вам знайшлі добраўпарадкаваны пакой, ніхто з супрацоўнікаў Светлагорскага аддзялення не жыве пад адкрытым небам.

**— Нас цікавіць, у якім стане цяпер знаходзіцца справа Лі Харві Освальда? Ходзяць чуткі, што яе збіраюцца прадаць за валюту ЦРУ.**

**По просьбе сям'і Чыгрынавых Сяргей Чыгрынаў, г. Навапалацк.**

— Справа на Лі Харві Освальда ў добрым стане знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі. Без рашэння нашай вышэйшай улады — Вярхоўнага Савета рэспублікі — гэтыя дакументы не будуць ні прададзены, ні выдадзены нікому. Чуткі наконт продажу ЦРУ, мабыць, адносяцца да перыяду, калі мы ўваходзілі ў склад КДБ Саюза і былы старшыня Бакацін меў намер азнаёміць ЦРУ з усімі тамамі гэтай справы. Мы запатрабавалі, каб гэта праходзіла на парытэтнай аснове, але ж амерыканцы заявілі, што не можа нават ісці размова аб прад'яўленні якіх-небудзь дакументаў з іх боку. Тады і мы адказалі адмовай, на гэтым усё і скончылася.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтавалі Аляксандр КОКТЫШ і Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### АБ УДАСКАНАЛЕННІ ЭКСПАРТУ І ВЫКАРЫСТАННЯ МІНЕРАЛЬНЫХ УГНАЕННЯЎ У АГРАПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСЕ

У мэтах павышэння эфектыўнасці экспартных паставак і выкарыстання ў аграпрамысловым комплексе мінеральных угнаенняў, вырабляемых у рэспубліцы, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях ажыццяўляць выдачу ліцэнзій на хлорысты калій толькі ў межах устаноўленай квоты па ўзгадненню з заводамі-вытворцамі і Дзяржэканомпланам.

2. Адмяніць заданне па звышквотавай пастаўцы калійных угнаенняў для экспарту, устаноўленае распараджэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 красавіка 1992 года № 377Р.

3. Устанавіць, што афармленне мытных дакументаў на экспарт мінеральных угнаенняў ажыццяўляецца ў мытных пунктах па месцы размяшчэння заводаў-вытворцаў.

4. Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях пазбаўляць суб'ектаў гаспадарання, якія парушылі парадак афармлення знешнегандлёвых аперацый (замена дадаткаў да кантракта пасля атрымання ліцэнзій і інш.), пасведчанняў удзельнікаў знешнеэканамічнай дзейнасці.

5. Дзяржаўнаму мытнаму камітэту сумесна з Дзяржаўным камітэтам па знешніх эканамічных сувязях арганізаваць эфектыўны кантроль за экспартам мінеральных угнаенняў і імпартам сустрэчных тавараў па бартэрных аперацыях.

6. Дзяржэканомплану, Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях пры фарміраванні плана экспартных паставак мінеральных угнаенняў, вырабляемых у рэспубліцы, у 1993 годзе прадугледзець іх продаж праз знешнегандлёвыя структуры заводаў—вытворцаў прадукцыі і Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання.

7. Дзяржаўнаму камітэту па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях сумесна з аблвыканкомамі, Міністэрствам сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, Міністэрствам фінансаў, Дзяржэканомпланам і заводамі-вытворцамі прааналізаваць стан выпрацоўкі і спажывання мінеральных угнаенняў у рэспубліцы і ўнесці прапановы ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь па стабілізацыі вытворчасці гэтых угнаенняў, аб'ёмах паставак на ўнутраны рынак і для экспарту, і эфектыўнаму іх выкарыстанню ў аграпрамысловым комплексе.

8. Дзяржаўнаму мытнаму камітэту, Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях падрыхтаваць прапановы па стварэнню ў рэспубліцы падраздзялення па кан'юнктуры цэн сусветнага рынку і інтэграванню яго ў сусветную сістэму інфармацыйнага забеспячэння.

9. Гродзенскаму вытворчаму аб'яднанню «Азот», вытворчаму аб'яднанню «Беларуськалій», Гомельскаму хімічнаму заводу прапрацаваць пытанне аб упакоўцы і затарванні мінеральных угнаенняў і адпаведныя прапановы ўнесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

10. Даручыць Міністэрству замежных спраў, Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях, Міністэрству юстыцыі і Дзяржаўнаму мытнаму камітэту прадставіць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы па атрыманню рэжыму найбольшага спрыяння ў гандлі ў краінах—імпарцёрах прадукцыі, вырабляемай у Рэспубліцы Беларусь, і ў першую чаргу ў краінах — імпарцёрах мінеральных угнаенняў.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Першы намеснік Кіраўніка спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А. САКАЛОЎСКІ.**

26 жніўня 1992 г.
г. Мінск.

# Пазнанне самога сябе— вышэйшая мудрасць

**...Праз млосны сон**
**і нерухомасць**
**Ты ажываеш спакваля,**
**нібы вясновая ралля,—**
**нацыянальная свядомасць.**

**Нядаўна прайшоўшая ў Маладзечна міжнародная канферэнцыя па тэме «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў» прыцягнула немалую ўвагу і прэсы, і грамадскасці. І нездарма:** наспеў час прааналізаваць тую ўнікальную сітуацыю, у якой апынуліся грамадзяне незалежнай цяпер Беларусі, большасць якіх не валодаюць роднай мовай (вынікі сацыялагічнага апытання сведчаць, што ў сталіцы на ёй гавораць не больш 2 працэнтаў насельніцтва), не ведаюць сваёй гісторыі, нацыянальных герояў, песень і танцаў (хаця маюць найбагацейшую духоўную і матэрыяльную спадчыну). Больш таго, даволі індыферэнтна ставяцца да праводзімай дзяржавай палітыкі беларусізацыі.

Сітуацыя і сапраўды надзвычай сур'ёзная і не можа не выклікаць трывогі. Асабліва калі даведваешся, што пасля абвяшчэння суверэнітэту працэс дэнацыяналізацыі народу не толькі не затухае, але і ўзмацняецца. «Наш суверэнітэт трымаецца на няўстойлівым фундаменце, якім з'яўляецца нацыянальная самасвядомасць»,— адзначыў у сваім дакладзе на канферэнцыі А. Мальдзіс. А між тым, паводле заключэння вучоных, свядомасць народа адкінута на ўзровень XVIII—XIX стагоддзяў, калі жыхары гэтай зямлі лічылі сябе «тутэйшымі». Міжволі задаешся гамлетаўскім пытаннем: быць ці не быць?

Вынішчэнне гістарычнай памяці са свядомасці беларуса ажыццяўлялася на працягу стагоддзяў самымі рознымі сродкамі. Савецкая ўлада, дэкларатыўна абвясціўшы права нацый на самавызначэнне, не толькі не паспрыяла беларусам трывала стаць на ногі, але амаль канчаткова давяла да заняпаду беларускі дух. Нацыянальная свядомасць беларусаў — з'ява няпростая, абумоўленая шэрагам гістарычных момантаў, а таксама складаным этнічным паходжаннем, рэлігійнай самаідэнтыфікацыяй. Грунтоўныя даклады на гэтыя тэмы, паведамленні і дыскусіі былі наладжаны на канферэнцыі па трох секцыях — «Вопыт гісторыі», «Шляхі адраджэння» і «Мова, мастацкае слова, рэлігія». Разам з вядомымі дзеячамі айчыннай навукі—Адамам Мальдзісам, Міколам Ермаловічам, Уладзімірам Конанам, Леанідам Лычом, Зінаідай Мажэйка, Васілём Ліцвінкам, Генадзем Каханоўскім, Міхасём Піліпенкам цікава і грунтоўна выступіла моладзь — аспіранты і нават студэнты інстытутаў. Са спецыяльна падрыхтаванымі паведамленнямі прыехалі на канферэнцыю члены маладзёжнай суполкі беларусаў у Маскве «Пагоня». Так, паведамленне будучага юрыста, студэнта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Андрэя Алешкі «Нацыянальная самасвядомасць і нацыяналізм» паслужылі штуршком да дыскусіі.

Наш зямляк, вучоны і журналіст доктар Янка Запруднік з Нью-Йорка, які даўно і паслядоўна займаецца вывучэннем беларускай гісторыі, звярнуў увагу прысутных на спрошчанасць падыходу да самога паняцця беларускасці. «У нашых нацыянальных інтарэсах сёння ўстанавіць як мага шырэйшую панараму беларускага грамадства мінулых стагоддзяў,— адзначыў ён.— Яно было катастрафічна звужана да паняцця сялянскасці, мужыцкасці, вясковасці... Як быццам не было ў Беларусі купцоў, духавенства, гарадскога мяшчанства, дваран, нарэшце. Калі мы будзем глядзець на сваю нацыю як на сялянскую, то мы не будзем ведаць вытокаў сваёй дзяржаўнасці. Ведаць жа іх вельмі важна. На беларускую дзяржаўнасць шмат хто яшчэ глядзіць як на байструка гісторыі, як на нейкую анамалію».

Вучоныя розных рангаў і навуковых школ даволі напружана працавалі на канферэнцыі. Акрамя іх сюды прыехалі выступіць і падзяліцца сваімі думкамі спецыялісты ўсіх галін культуры — музейныя работнікі, школьныя і ўніверсітэцкія выкладчыкі, бібліятэкары, краязнаўцы.

Знаёміцца з такімі людзьмі заўсёды цікава і карысна: лепш бачыш рэальную карціну жыцця, разумееш праблемы і запатрабаванні тых, каго мы часам мусіці саромеемся называць народам.

Вольга Мароз, дырэктар Карэліцкага краязнаўчага музея, гісторык па адукацыі, паведаміла, што іх культурная ўстанова ўжо чацвёрты год на рамонце, таму што не хапае сродкаў давесці ўсё да ладу. Чатыры тысячы адзінак музейных экспанатаў надзейна схаваныя ў скрынях. На месцы старой гістарычнай забудовы ўзведзены стандартны Дом культуры. А сам краязнаўчы музей знайшоў сабе прытулак на яўрэйскіх могілках. Хіба не тыповая карцінка нашай мілай правінцыі, дзе занядбана нават такая нядаўняя гісторыя і дзе знівеліравана ўся адметнасць мясціны, некалі славутай сваёй ткацкай мануфактурай, выдатнымі народнымі майстрамі?

Якую нацыянальную самасвядомасць і годнасць могуць выхаваць у людзей безаблічная архітэктура і жабрацкія бібліятэкі? Адказаць на гэтыя пытанні вельмі проста — ніякай.

Але сёння мы апынуліся ў сітуацыі, калі «на карту свету ўзышоў беларус». Беларусь, як незалежная і невядомая дзяржава, прыцягальная для заходняга свету: навукоўцаў, бізнесменаў, палітыкаў! Нездарма на канферэнцыі прысутнічалі вучоныя з Аўстрыі, ЗША, Швейцарыі, Германіі, Англіі.

Герман Бідэр, мовазнаўца, славіст, дацэнт, выкладчык Зальцбургскага ўніверсітэта, выдатна размаўляе па-беларуску. Ён, дарэчы, у арыгінале чытаў Статут ВКЛ, старажытныя летапісы, палемічную старабеларускую літаратуру і мае глыбокую пашану да беларускага народа. Сустрэчы і знаёмствы з вядомымі беларускімі вучонымі на канферэнцыі, абмен думкамі, трэба думаць, дапамогуць Герману Бідэру дапісаць цікавую і змястоўную кнігу пра культурнае адраджэнне Беларусі, распачатую ім. Адно ён пашкадаваў, што параўнаўча мала было дакладаў па мовазнаўству, не пачуў ён і аўтарытэтных лінгвістаў.

На прэс-канферэнцыі для журналістаў былі падведзены вынікі двух дзён работы больш чым 100 вучоных з розных краін свету. Члены аргкамітэта адзначылі: канферэнцыя паказала, што навукоўцы маюць «задзел», навуковыя абагульненні вопыту гісторыі па праблеме нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і гатовы прадставіць навуковыя рэкамендацыі дзяржаўным і грамадскім арганізацыям, партыям і рухам.

На пытанне, якія думкі выклікала ў вас канферэнцыя, доктар Янка Запруднік адказаў эмацыянальна і канструктыўна:

— Прайшоўшая ў Маладзечна канферэнцыя ёсць тэматычная рэвалюцыя ў галіне беларусазнаўства. Тэмы, што разглядаліся тут, бадай, упершыню прагучалі на міжнародным форуме: пытанне менталітэту беларусаў, пытанне нацыянальнай ідэі, пытанне нацыянальнага характару, праблема выжывання беларусаў у новых палітычных умовах. Гэта пытанні стратэгічна важныя. Сам факт абмеркавання іх з удзелам вучоных цэлага свету, у тым ліку і беларускага замежжа, думаецца, ёсць гарант таго, што мы нарэшце дакрануліся да ядра праблемы нашага існавання. Скарына казаў, што пазнанне самога сябе — вышэйшая мудрасць.

**Таццяна АНТОНАВА.**

ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

# Грашовая жыллёвая квота.

## Як яе атрымаць і на што выкарыстаць

**У рэдакцыю «Звязды» паступае даволі шмат пісьмаў, тэлефонных званкоў з просьбай адказаць, растлумачыць тое ці іншае юрыдычнае пытанне, даць кваліфікаваную кансультацыю. Яно і зразумела. У нашай рэспубліцы апошнім часам прыняты цэлы шэраг новых законаў, пастаноў, іншых нарматыўных актаў, і, натуральна, людзям хочацца ведаць, як імі правільна карыстацца пры вырашэнні сваіх жыццёва важных праблем. Узнікаюць нярэдка таксама розныя складаныя сітуацыі, у якіх сапраўды няпроста разабрацца, не маючы юрыдычнай адукацыі.**

**Звычайна такія допісы рэдакцыя накіроўвала ў адпаведныя ўстановы, арганізацыі і міністэрствы з просьбай растлумачыць аўтарам пытанні, якія ў іх узніклі. І спецыялісты давалі кампетэнтныя адказы. Некаторыя з іх, якія больш за ўсё цікавілі людзей, мелі грамадскае гучанне, газета друкавала на сваіх старонках.**

**Сёння, паважаныя чытачы і падпісчыкі, нам хочацца паведаць, што «Звязда» адкрывае рубрыку «ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ», якую ахвотна пагадзіўся весці высокакваліфікаваны спецыяліст Уладзімір Іванавіч КУПЧЫНСКІ.**

**Ніжэй друкуецца яго юрыдычная кансультацыя.**

**Зараз многа гавораць пра прыватызацыю жылля і жыллёвую квоту. Хацелася б даведацца, хто мае права на гэту самую квоту, у якім размеры яна налічваецца, як яе атрымаць, куды можна выкарыстаць?**

**А. ЧАРНІКЕВІЧ, г. Мінск.**

Асноўныя пытанні прыватызацыі жылля і налічэння жыллёвых квот рэгулююцца Законам Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» і Палажэннем аб прыватызацыі жылых памяшканняў у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду ў рэспубліцы, зацверджаным пастановай Савета Міністраў РБ ад 30 чэрвеня 1992 года № 398.

Згодна з вышэйпамянёным законам, грашовая жыллёвая квота — гэта вартасны эквівалент жылля, што перадаецца грамадзянам Беларусі бязвыплатна, які вызначаецца адносінамі рэшткавага кошту аб'ектаў прыватызацыі ў цэнах на 31 снежня 1991 года ў цэлым па рэспубліцы да колькасці грамадзян рэспублікі з улікам працоўнага стажу. Такім чынам, атрымаць грашовую жыллёвую квоту мае права кожны грамадзянін рэспублікі, у тым ліку і непаўналетні. Выдаецца гэта квота па наступных правілах. Грамадзянам, якія маюць намер атрымаць яе, трэба звярнуцца з заявай у жыллёва-эксплуатацыйныя арганізацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў (пасялковых, сельскіх), да кіраўніцтва прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый або ў праўленне жыллёва-будаўнічых (жыллёвых) кааператываў у залежнасці ад прыналежнасці дома, у якім яны пражываюць. Да заявы неабходна прыкласці даведку аб працоўным стажы. Уладальнік дома, у якім пражывае грамадзянін, павінен налічыць яму грашовую жыллёвую квоту. Яна налічваецца такім чынам. Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь мае права на базавую грашовую квоту ў размеры (як устаноўлена ўказаным Палажэннем) 650 рублёў. Тым жа грамадзянам, якія маюць працоўны стаж, дадаткова налічваецца па 120 рублёў за кожны год працоўнага стажу. Пры гэтым для мужчын ён улічваецца не больш за 45 гадоў, а для жанчын — не больш за 40. Няпоўны год работы (калі ён ёсць) залічваецца як поўны, калі ў ім грамадзянін працаваў паўгода і больш, і не залічваецца, калі гэты тэрмін склаў менш як паўгода. Стаж вызначаецца па стану на 31 снежня 1991 г.

Для нагляднасці прывядзём канкрэтны прыклад. Скажам, увесь састаў сям'і — чатыры чалавекі. Бацька мае 50 гадоў працоўнага стажу, маці — 39 гадоў і чатыры месяцы, дачка — 11 гадоў і восем месяцаў, непаўналетняя ўнучка, вядома, ніякага стажу не мае. Грашовая жыллёвая квота бацькі складзе 6.050 рублёў (улічваецца працоўны стаж 45 гадоў), маці — 5.330 рублёў (39 гадоў), дачкі — 2.090 рублёў (12 гадоў) і, нарэшце, унучкі — 650 рублёў (базавая квота пры адсутнасці працоўнага стажу). Такім чынам, сума квот усіх членаў сям'і складзе 14.120 рублёў.

Пасля налічэння грашовых жыллёвых квот спісы грамадзян зацвярджаюцца адпаведнымі выканкомамі Саветаў народных дэпутатаў і перадаюцца ўстановам Ашчаднага банка.

Там грамадзяне, якія адначасова з пытаннем аб налічэнні квоты не ставілі пытання аб прыватызацыі жылога памяшкання, атрымліваюць імянныя прыватызацыйныя чэкі «Жыллё». Тыя ж, хто такое пытанне паставіў, атрымліваюць чэкі толькі тады, калі іх квота большая на кошт кватэры і толькі за тую суму, на якую квота перавышае кошт прыватызуемага жылога памяшкання. Калі ж размер квоты меншы або роўны кошту прыватызуемага жылля, а таксама на частку квоты, якая не перавышае яго кошт, прыватызацыйныя чэкі не выдаюцца, бо ў гэтай частцы квота залічваецца ў кошт прыватызуемага жылля.

Грашовая жыллёвая квота можа быць выкарыстана на прыватызацыю жылля, для абмену на каштоўную паперу, для выплаты паявога ўзносу ў жыллёвым і жыллёва-будаўнічым кааператыве і для фінансавання жыллёвага будаўніцтва пры індывідуальнай забудове; для прыватызацыі зямлі, а таксама прыватызацыі асноўных фондаў у працэсе раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці. Гэты пералік устаноўлены ўказаным законам. Выкарыстанне жыллёвай квоты на іншыя мэты ім не прадугледжана. Жыллёвыя квоты можна аб'ядноўваць, дарыць, завяшчаць і перадаваць у спадчыну для вышэйуказаных мэт.

Трэба адзначыць, што Закон аб прыватызацыі жыллёвага фонду пакідае за грамадзянінам права выбару, на якую з пералічаных мэт выкарыстаць сваю грашовую жыллёвую квоту. Аднак Палажэнне, зацверджанае пастановай Савета Міністраў, гэта права абмяжоўвае: у ім устаноўлена (пункт 18), што жыллёвая квота ў першую чаргу павінна быць выкарыстана для прыватызацыі жылля. У гэтай частцы, на наш погляд, Палажэнне супярэчыць памянёнаму закону і грунтоўна ўшчамляе прадастаўленыя ім правы па выкарыстанню грамадзянамі жыллёвай квоты. Значыць, пракуратура рэспублікі павінна ў гэтай частцы Палажэнне апратэставаць.

**Уладзімір КУПЧЫНСКІ, юрыст, галоўны кансультант агенцтва «Інтэрюркам» пры Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь.**




## ДЛЯ ВАС, АМАТАРЫ МУЗЫКІ

**Дачцэ ў музычнай школе выкладчыца расказвала аб нейкай беларускай музычнай энцыклапедыі. Аднак нешта яна да гэтай пары не з'яўляецца ў продажы...**
**Т. ВАСЬКОВА, г. Брэст.**

Уся справа ў тым, што прыгаданае чытачкай выданне яшчэ не выйшла ў свет. Першы вялікі тлумачальны беларускі музычны слоўнік энцыклапедычнага тыпу толькі рыхтуецца ў Інстытуце гісторыі, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. Выданне будзе ўключаць у сябе руска-беларускі і беларуска-рускі варыянты і дасць тлумачэнне прафесіянальнай лексікі музыкантаў, розных стыляў і паняццяў, плыняў і напрамкаў.

## З Прыднястроўем не ўсё так проста

**У сувязі з трагічнымі падзеямі ў Прыднястроўі не маглі б вы расказаць аб тым, як складваўся гістарычны лёс гэтага краю?**
**М. КІСЯЛЕЎ, г. п. Бялынічы.**

Даведку дае доктар гістарычных навук В. Гросул. У XVIII стагоддзі малдаване неаднаразова звярталіся да расійскай дзяржавы з просьбай абараніць іх ад турэцкіх набегаў. Дастаткова ўспомніць допіс малдаўскага мітрапаліта Леона, дасланы ім у 1787 годзе камандуючаму рускай арміі Румянцаву, дзе былі такія радкі: «Падая на колени, плача, просим избавить нас от опасности, нам грозящей...». У 1791 годзе ў выніку руска-турэцкай вайны паўднёвая (польская) частка малдаўскага Прыднястроўя ўвайшла ў склад Расіі (па Яцкаму мірнаму дагавору). Паўночная (татарская) частка Прыднястроўя перайшла да Расіі ў 1793 годзе. Падзел на паўднёвую і паўночную часткі праводзіўся па рацэ Ягарлык. У 1918 годзе Бесарабія, якая належала Расіі, была акупіравана румынскімі войскамі, а Левабярэжжа перайшло да савецкай Украіны.

У 1924 годзе была створана Малдаўская аўтаномная рэспубліка ў саставе Украіны. У 1940 годзе савецкі ўрад, які ніколі не прызнаваў акупацыі Бесарабіі, перадаў ультыматум Румыніі з патрабаваннем пакінуць Бесарабію і вывесці войскі з яе тэрыторыі. У выніку тады ж і была створана Малдаўская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, у якую ўвайшла большая (цэнтральная) частка Бесарабіі і меншая частка былой Малдаўскай аўтаномнай рэспублікі, уключаючы Прыднястроўе. Паўночная і паўднёвая часткі Бесарабіі адышлі да Украіны. Нацыянальны састаў левабярэжнай часткі Прыднястроўя зараз наступны: каля 40 працэнтаў насельніцтва складаюць малдаване, 28 працэнтаў — украінцы, 26 працэнтаў — рускія і 6 працэнтаў — балгары, гагаузы, немцы, яўрэі, палякі.

## На любы густ і кашалёк

**Даўно мару купіць аўтамабіль «Жыгулі». І вось, здаецца, сабраў грошай, дзеля чаго прыйшлося два гады запар паездзіць у Польшчу. Буду вельмі ўдзячны рэдакцыі, калі яна паведаміць аб існуючых цэнах на розныя мадэлі «Жыгулёў».**
**У. ТРАФІМЕНКА, г. Баранавічы.**

Выконваем просьбу чытача. Апошнія цэны на мадэлі легкавых аўтамабіляў вытворчасці Волжскага аўтазавода:

ВАЗ-1111 — 150 тысяч 700 рублёў
ВАЗ-2104—277.200
ВАЗ-2105 — 253.000
ВАЗ-21043 — 310.200
ВАЗ-21051 — 242.000
ВАЗ-21053 — 264.000
ВАЗ-2106 — 285.000
ВАЗ-21061 — 275.000
ВАЗ-21063 — 253.000
ВАЗ-21213 — 346.000
ВАЗ-2107 — 327.000
ВАЗ-21074 — 349.000
ВАЗ-21072—294.000
ВАЗ-2108 — 275.000
ВАЗ-21081 — 264.000
ВАЗ-21083—308.000
ВАЗ-2109 — 420.200
ВАЗ-21091 — 394.900
ВАЗ-21093 — 469.000
ВАЗ-21099 — 536.500
ВАЗ-2121 — 308.000

Як бачыце, выбар ёсць, ды яшчэ на любы густ. Былі б толькі грошы.

## Як праверыць надзейнасць брокера?

**Шмат аб'яў апошнім часам публікуюць нашы газеты, якія запрашаюць да супрацоўніцтва з брокерамі, брокерскімі канторамі. Але як быць, калі пра іх нічога не ведаеш. Ці можна якімсьці чынам даведацца пра надзейнасць брокераў?**
**Васіль АХРАМЧУК.**

**Адказ дае юрыст Уладзімір ПЕТУХОВІЧ:**

Як праверыць **надзейнасць брокерскай фірмы** — не толькі той, пра якую вы дагэтуль нічога не чулі, але і той, рэклама якой дастаткова надакучлівая?

Напрыклад, вы нічога не ведаеце пра справы брокерскай фірмы (не публікуюцца яе балансы і іншыя справаздачы). Акрамя таго, брокер, які будзе выконваць ваш заказ, можа весці двайную гульню.

У той жа час і брокерская фірма можа не давяраць вам. Магчыма, яна заключыць для вас здзелку, а вы не выканаеце сваіх абавязацельстваў па ёй — сарвяце пастаўку ці, наадварот, адмовіцеся ад плацяжоў за пастаўленыя тавары. У цэлым шэрагу выпадкаў гэта адбываецца без злоснага намеру, а па прычыне «форсмажорных абставін».

Паводле ацэнак спецыялістаў, са 100 папярэдне абгавораных кантрактаў толькі 1—2 завяршаюцца падпісаннем дагавора. Кожны дзесяты падпісаны кантракт ніколі не выконваецца. Кожны трэці — выконваецца з затрымкай і кожны пяты — са змененымі ўмовамі.

Брокерам даводзіцца пастаянна думаць, як дабіцца ад кліента выканання ўзятых на сябе абавязацельстваў. Таму не здзіўляйцеся, што брокерская кантора патрабуе ад вас тых ці іншых гарантый.

Строга кажучы, брокерскай канторы трэба вырашаць сама меней адразу дзве задачы: **гарантаваць сваю ўласную ўзнагароду** пры паспяховым заключэнні здзелкі і **гарантаваць выкананне вамі абавязацельстваў перад контрагентам.** Вядомы выпадкі, калі брокер дапамог для кліента знайсці контрагента, а кліент пасля гэтага не збіраецца аплачваць паслугі брокера, спасылаючыся на тое, што цяпер ён напрамую выйшаў на пастаўшчыка (пакупніка) і брокер «проста» іх звёў. Асабліва гэта тыпова пры пошуку замежных партнёраў.

Вядомы выпадкі, калі кліент адмаўляецца весці разлікі са знойдзеным брокерам контрагентам.

**Гарантыя ўласнай аплаты** пры паспяховым заключэнні здзелкі дасягаецца адносна проста:

— брокер просіць кліента пералічыць яму **залог** у аб'ёме, прыкладна роўным аплаце, якая яму належыць. Некалькі працэнтаў ад сумы здзелкі ў вас пярэчанняў, хутчэй за ўсё, не выклікаюць. Праўда, пры дастаткова вялікіх аб'ёмах здзелак сума залогу можа стаць істотнай, і вам не захочацца браць грошы са свайго абароту. Тады ў вас ёсць магчымасць выдаць брокеру вэксаль (пакуль яшчэ ў асноўным тэарэтычная магчымасць, таму што вэксалі не атрымалі істотнага развіцця ў нашай краіне): ён будзе прад'яўлены да аплаты толькі праз некаторы час, грошы не выйдуць з вашага абароту, а брокер атрымае гарантыю, што вы з ім расплаціцеся;

— брокер просіць кліента адкрыць яму **акрэдытыў** на суму аплаты з умовай, што брокер атрымае гэтыя грошы пасля заключэння кантракта. Гэтая форма ўзаемаадносін таксама дастаткова рэдка прымяняецца ў гаспадарчай практыцы;

— брокер можа ўключыць **у дагавор з кліентам пункт аб спісанні з вашага разліковага рахунку** сумы аплаты пры выкананні дагавора. Адзіная цяжкасць пры рэалізацыі такога кантакта — неабходнасць падпісання з кліентам акта аб выкананні работ;

— брокер перадае справу на разгляд **арбітражу**. Перадача справы ў Дзяржарбітраж — не толькі дарагое «задавальненне», але і цяжкая справа.

Асноўны прынцып работы брокераў на першым этапе іх станаўлення ў нашай краіне быў — «грошы наперад» (перадаплата паслуг). Па меры нарастання канкурэнтнай барацьбы ўсё часцей укараняецца прынцып — «спачатку паслуга, а потым аплата». Паспяховаму ўкараненню гэтага прынцыпу будуць спрыяць умацаванне заканадаўчай базы і развіццё этыкі прадпрымальніцтва.

У многім гэтаму спрыяюць біржы: яны з'яўляюцца самарэгулюючымі арганізацыямі, займаюцца ў сваёй «нішы» ў пэўнай меры заканатворчасцю і выкананнем гэтых законаў, разгружаючы тым самым адпаведныя дзяржаўныя службы і больш аператыўна рэагуючы на змяненні гаспадарчых сітуацый.

# АБХАЗІЯ: КРЫВАВЫ ЖНІВЕНЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ня відавочна: вяртанне Абхазіі да Канстытуцыі 1925 года, рашэнне аб якім прыняў парламент Абхазіі ў канцы ліпеня, зусім не азначала таго, што рэспубліка імкнулася выйсці з састава Грузіі. Размова ішла аб федэралізацыі Грузіі, большай аўтаноміі Абхазіі, чым тая, якую яна мае цяпер.

— Якраз у той дзень, калі мы на сесіі збіраліся абмяркоўваць праект дагавора аб адносінах з Грузіяй, яны кінулі супраць нас танкі, — расказваў мне Зураб Ачба, дэпутат парламента, намеснік старшыні ўплывовага Абхазскага народнага форуму. — Між тым, згодна з праектам новага дагавора Абхазія не адыходзіць, не аддзяляецца. Проста мы хочам большай самастойнасці.

...Войны на прасторах былога СССР як бы далёка адна ад другой яны ні грымелі—на дзіва падобныя. Інакш напэўна, і быць не можа, бо сцэнарыст у іх адзін, і ён жорстка захоўвае законы жанра. Гэта падабенства дазваляе з вялікай доляй верагоднасці прагназаваць далейшае развіццё грузінска-абхазскага канфлікту. Настойлівае жаданне Тбілісі чаго б гэта ні каштавала ўтрымаць Абхазію на кароткім павадку, ні на сантыметр не адпускаючы яго,—немінуча прывядзе да эскалацыі ўзброеных сутыкненняў, да яшчэ большай крыві і, як вынік, — да новых патрабаванняў і прэтэнзій. Аднак потым, калі колькасць ахвяр цяжкім грузам ляжа на шалі тых, каму суджана будзе ўсталёўваць тут мір, — гэтыя патрабаванні неймаверна вырастуць. Вайна ў Прыднястроўі—яскравы прыклад гэтага.

Ельцынскае кіраўніцтва даўно ўжо зразумела бесперспектыўнасць і згубнасць дыялога з аўтаноміямі з пазіцыі сілы і імкнецца знайсці кампраміс шляхам перагавораў. Грузія да сённяшняга дня аддае перавагу метаду ўласных спроб і памылак.

...На жаль, пакуль што мне не ўдалося пабываць у Сухумі: трапіць туды з тэрыторыі заходняй Абхазіі надзвычай складана. Па словах афіцыйных абхазскіх кіраўнікоў—у прыватнасці, намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Альберта Тапальяна, з якім я меў гутарку, — горад пакутуе ад грабежнікаў і марадзёраў. Рабуюць кватэры, магазіны, музеі. Разрабавана і адна з самых вялікіх каштоўнасцей абхазскай навукі — Інстытут эксперыментальнай паталогіі і тэрапіі са славутым гадавальнікам, дзе ўтрымліваліся малпы розных відаў.

...Цудоўныя пляжы на чарнаморскім пабярэжжы Абхазіі на дзіва малалюдныя. Пансіянаты пусцеюць. Праўда, да поўнай эвакуацыі ўсіх адпачываючых яшчэ далёка, — як бы пра гэта ні гаварыла расійскае тэлебачанне. Ды і няма яе, мэтанакіраванай масавай эвакуацыі.

Стан, блізкі да панікі, узнік у першыя дні канфлікту. Тады я назіраў у Піцундзе, як адпачываючыя штурмавалі «Ікарус», што ішоў у Адлер. Відовішча нечым нагадвала кадры кінахронікі аб першых днях Вялікай Айчыннай, калі бежанцы бралі прыступам паязды, што ішлі на ўсход.

Але потым хваляванні пакрысе ўлягліся. Тыя, каго не бянтэжыць выгляд узброеных пастоў, рэдкія аддаленыя аўтаматныя чэргі за горадам і адмена танцаў у пансіянатах, — па-ранейшаму атрымліваюць асалоду сярод раскошы цёплых марскіх хваль і рэліктавага сасновага бору Піцунды.

— Больш за ўсё мы баімся, каб канфлікт не перакінуўся на адносіны паміж грузінамі і абхазцамі, што здаўна жывуць побач у Піцундзе, — гаварылі мне многія ў пасёлку.

У штабе грамадзянскай абароны ў час, калі пішуцца гэтыя радкі ідзе запіс у сілы самаабароны. Запісваюцца не толькі абхазцы, але і рускія, армяне... Даведаўшыся аб прыездзе карэспандэнта, яны абступілі мяне з усіх бакоў, на чым свет клялі Шэварднадзе, абураліся маўчаннем Ельцына.

— Хто нас выратуе, калі сюды прыйдуць грузіны?

Мне не было чаго сказаць ім у адказ.

Піцунда—Гудаута.
Абхазія.

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Публікацыя матэрыяла нашага карэспандэнта Валянціна Жданко стала магчымай, дзякуючы бескарыслівай дапамозе многіх і многіх людзей. Для страхоўкі, калі б згубіўся арыгінал беларускага варыянта, артыкул быў перакладзены і перадрукаваны невядомай нам машыністкай на рускай мове. Яго даставілялі ў Мінск і пешшу, і на машыне, і самалётам. З Сочы артыкул прывезла Тамара Мікалаеўна Траян, а ў рэдакцыю прынёс Аляксандр Уладзіміравіч Сакун. Рэдакцыя ўдзячна ўсім, хто дапамог нашым чытачам даведацца праўду аб падзеях у Абхазіі.**

**У той жа час рэдакцыя заклапочана лёсам супрацоўніка «Звязды» Валянціна Жданко і соцень грамадзян Беларусі, якія апынуліся ў зоне канфлікту.**

**Калі нумар ужо быў гатовы да друку нам паведамілі са штаба грамадзянскай абароны РБ, што за ноч з 27 на 28 жніўня з Піцунды ў Сочы было эвакуіравана 1500 чалавек, з Гудауты ў Сочы — 300, з Сухумі — 800, з Поці — 130. Прадстаўнікі штаба ў Сочы цяпер займаюцца тым, што вышукваюць сярод эвакуіраваных беларусаў і арганізоўваюць іх адлёт на радзіму, у Беларусь. Гаварыць аб канкрэтным лёсе кожнага нашага земляка, у тым ліку і спецыяльнага карэспандэнта «Звязды» Валянціна Жданко, пакуль рана. Новыя весткі аб становішчы ў Абхазіі мы думаем атрымаць у бліжэйшы час.**

ФУТБОЛ: ЧЭМПІЯНАТ РЭСПУБЛІКІ

## І мінскія каманды спатыкаюцца

Закончыўся чарговы тур чэмпіянату рэспублікі па футболу. З пачатку першынства ён, здаецца, аказаўся багатым на сюрпрызы.

Толькі адзін тур пратрымаліся дынамаўцы Мінска на першым месцы. У Старых Дарогах яны падзялілі ачкі з мясцовым «Будаўніком»—1:1 і адразу перамясціліся на трэці радок у табліцы. Прычым госці выйгравалі да апошніх хвілін гульні. Тры мінскія каманды здолелі набраць у шостым туры толькі адно ачко. «Беларусь», гуляючы на галоўнай арэне рэспублікі—стадыёне «Дынама», уступіла магілёўскаму «Тарпеда»—0:1, а землякі-аўтазаводцы прапусцілі два безадказныя мячы на сваім полі ад віцебскага «КІМа». Дарэчы, віцябляне пакуль што адзіная каманда, якая ўсе свае гульні выйграла. А на першае месца выйшла брэсцкае «Дынама». Дома яно змагло адабраць два ачкі ў «Трактара», перамогшы гасцей 1:0.

Паправіў сваё турнірнае становішча і віцебскі «Лакаматыў». У родных сценах ён літаральна разграміў маладзечанскі «Металург»—7:4. Дарэчы, у гэтым матчы было забіта галоў больш, чым ва ўсіх астатніх гульнях тура, якія закончыліся так:

БелАЗ—Шахцёр — 0:1
Гомсельмаш—Ведрыч—1:0
Днепр—Хімік — 1:1

**АРЫФМЕТЫКА ТУРА**

Забіты 21 мяч. Сярэдняя выніковасць—2,62 мяча за гульню. Назначаны два пенальці і абодва рэалізаваны. Першую перамогу і з буйным лікам атрымаў віцебскі «Лакаматыў». Адзінай камандай, якая не набрала ў шасці гульнях ніводнага ачка, з'яўляецца жодзінскі БелАЗ.

Спіс бамбардзіраў пакуль што ўзначальваюць два футбалісты. Гоцманаў з Мінскага «Дынама» і Юсіпец з «Гомсельмаша». На іх рахунку па чатыры мячы. Па тры галы змаглі забіць
Д. Барабаш—«Тарпеда» (Мг)
С. Гоманаў—«Металург»
С. Куланін—«КІМ»
А. Лагуноў—«Лакаматыў».

Турнірная табліца пасля 6 тураў.

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (БР) | 6 | 4 | 1 | 1 | 5-1 | 9 |
| Тарпеда (Мг) | 6 | 3 | 3 | 0 | 8-2 | 9 |
| Дынама (Мн) | 5 | 3 | 2 | 0 | 13-5 | 8 |
| Беларусь | 5 | 3 | 1 | 1 | 5-2 | 7 |
| Хімік | 6 | 2 | 3 | 1 | 5-5 | 7 |
| КІМ | 3 | 3 | 0 | 0 | 8-1 | 6 |
| Днепр | 6 | 2 | 2 | 2 | 6-8 | 6 |
| Трактар | 6 | 1 | 4 | 1 | 3-2 | 6 |
| Ведрыч | 4 | 2 | 1 | 1 | 4-2 | 5 |
| Гомсельмаш | 5 | 2 | 1 | 1 | 6-7 | 5 |
| Шахцёр | 5 | 2 | 1 | 2 | 4-3 | 5 |
| Лакаматыў | 6 | 1 | 3 | 2 | 10-11 | 5 |
| Металург | 6 | 1 | 2 | 3 | 9-12 | 4 |
| Тарпеда (Мн) | 5 | 0 | 4 | 1 | 5-7 | 4 |
| Будаўнік | 5 | 1 | 1 | 3 | 4-6 | 3 |
| Абутнік | 5 | 0 | 1 | 4 | 2-8 | 1 |
| БелАЗ | 6 | 0 | 0 | 6 | 1-13 | 0 |

**Наступны тур адбудзецца 1 верасня.**

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

ЧЫТАЧ ПРОСІЦЬ СЛОВА

## Некалькі пытанняў пасля мітынгу

У час мітынгу БНФ 25 жніўня выступаўшыя гаварылі аб адраджэнні нацыянальнай самасвядомасці, умацаванні суверэнітэту рэспублікі, развіцці беларускай мовы. І гэта правільна.

Але насцярожвае тое, што на адным з транспарантаў на бел - чырвона-белым фоне была намалявана карта Беларусі, дзе ў саставе нашай рэспублікі пазначаны польскі горад Беласток, літоўская сталіца Вільнюс, рускі горад Смаленск. Што гэта азначае? Ці не тое, што мы павінны, насуперак Хельсінкскім пагадненням, перагледзець граніцы і дамагчыся, каб гэтыя тэрыторыі ўвайшлі ў склад Беларусі?

А як адваяваць новыя тэрыторыі? З дапамогай зброі? І гэта тады, калі на глебе раздзелу гараць Югаславія, Грузія, Малдова, Арменія, Азербайджан...

На мой погляд, гэта ў духу ўсім вядомага пана Жырыноўскага, які хоча адрадзіць Расію ў рамках Расійскай імперыі, з Польшчай і Фінляндыяй.

Надпіс на транспаранце з картай быў зроблены лацінскімі літарамі. Спадар, які трымаў гэты лозунг, растлумачыў, што ў католікаў усё пішацца лацінскімі літарамі. Большасць нашых суграмадзян не ведаюць гэтай мовы, таму з цяжкасцю маглі разабраць словы. Як гэта стасуецца з заклікамі аб адраджэнні роднай мовы?

Магчыма, што лідэры БНФ жадаюць, каб Еўропа як мага хутчэй прыняла нашу рэспубліку ў свае рады: «Пішам жа такім шрыфтам». Але Еўропа жыве па законах Хельсінкскіх пагадненняў, якія прызнаюць непахіснасць граніц. Ды і што скажуць грамадзяне Польшчы і Літвы, калі ўбачаць па тэлебачанні, што іх гарады значацца на карце Беларусі? Ці будзе гэта садзейнічаць нашай інтэграцыі ў Еўрапейскую садружнасць?

**Уладзімір ВЕРНІГОРАЎ, афіцэр запасу.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**ТАЛАЧЫН. Рабочы «Райаграпрамтэхнікі» Р., знаходзячыся ў нецвярозым стане, пабіў і згвалтаваў сваю 70-гадовую маці.**

**ВІЦЕБСКІ РАЁН. У адной з вёсак у дом пенсіянеркі Б. ноччу ўвайшлі двое. Адзін са злачынцаў забіў з паляўнічай стрэльбы сабаку, а другі згвалтаваў гаспадыню. Злачынцы зніклі, прымаюцца меры для іх затрымання.**

**НАВАПОЛАЦК. Нідзе не працуючы, раней асуджаны С. ва ўласнай кватэры ўдарам нажа забіў жонку, а потым гэтым жа нажом пакончыў жыццё самагубствам.**

**ПОЛАЦКІ РАЁН. У вёсцы Глінішча каля крамы ў час сваркі ляснік Полацкага лясніцтва П. біў нагамі і рукамі бацьку, які ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памёр.**

**Алег ДУК.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «БІ-БІ-СІ»

* Краіны—удзельніцы антыіракскай кааліцыі папярэдзілі Хусейна, што ў зоне над тэрыторыяй шытаў іракскія самалёты будуць збівацца авіяцыяй з амерыканскага авіяносца. Брытанскія і англійскія самалёты будуць выконваць назіральныя і разведвальныя функцыі. Урад Ірака заявіў, што знойдзе спосаб, як адказаць на гэты ультыматум.

*** Э. Шэварднадзе заявіў, што сітуацыя ў Абхазіі значна ўскладнілася пасля таго, як да сепаратыстаў далучыліся сотні ўзброеных добраахвотнікаў з горных раёнаў Каўказа. Тым часам генеральны пракурор Расіі ўзбудзіў крымінальную справу супраць Канфедэрацыі горскіх народаў, якая ўдзельнічае ў канфлікце.**

* Арменія аб'явіла, што спыняе падачу электраэнергіі ў Нахічэвань.

*** У прамове з нагоды святкавання першай гадавіны незалежнасці спікер парламента Малдовы Машану сказаў, што малдаване павінны рыхтавацца да аб'яднання з Румыніяй. Гэта першая афіцыяльная адкрытая заява ўлады рэспублікі аб існаванні падобнага плана.**

### РАДЫЁ ІЗРАІЛЯ

* У Ізраілі лічаць, што Багдад не зацікаўлены ў новай вайне, але ён мае значныя ваенныя сілы: 28 дывізій, 2 тысячы танкаў, 1.500 артылерыйскіх гармат і 400 баявых самалётаў, каля 200 ракет «Скад» і некалькі пускавых установак. Што датычыць ядзернага патэнцыялу, то пакуль што была знойдзена толькі частка абсталявання, якое дазваляла Іраку вырабіць ядзерную зброю.

*** Перагаворы ізраільцян і палесцінцаў пакуль што не прынеслі станоўчых вынікаў. Палесцінцы шмат займаюцца дэмагогіяй і не адказалі на дакументы, якія ім перадала дэлегацыя Ізраіля. Вашынгтон спрабуе арганізаваць сустрэчу Я. Арафата з лідэрамі Ізраіля ў кастрычніку г.г.**

* У Іарданіі раскрыта тэрарыстычная сетка ісламскіх фундаменталістаў. 10 тэрарыстаў арыштавана, у іх знойдзена зброя, ваенны рыштунак. Па гэтай справе таксама арыштаваны дэпутат парламента Іарданіі.

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

*** Канцлер ФРГ Г. Коль заявіў, што нядаўняя ўспышка насілля ў горадзе Ростаку нанесла вялікія страты прэстыжу Германіі ў свеце. Паліцыя паведаміла, што на працягу пяці дзён і начэй каля інтэрнатаў для бежанцаў было арыштавана 140 чалавек. Групы ўльтраправай моладзі закідвалі паліцыю каменнем і бутэлькамі, падпальвалі машыны, спрабавалі будаваць барыкады. Супраць хуліганаў былі выкарыстаны дубінкі, слёзатачывы газ, вадамёты. Коль адзначыў, што трэба правесці дакладнае расследаванне і пакараць вінаватых.**

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

* У Кабульскім аэрапорце ракета трапіла ў цыстэрну з гаручым, у выніку загарэўся расійскі ваенна-транспартны самалёт. Ён прыляцеў за дыпламатамі. Яны і іншыя работнікі, замежныя грамадзяне паляцелі на двух «ІЛах». 50 чалавек, у тым ліку і расійскі пасол, засталіся ў Кабуле.

*** Прадстаўнік Арменіі ў ААН звярнуўся да амерыканскіх медыкаў з просьбай тэрмінова выехаць на яго радзіму, дзе востра не хапае ўрачоў, медыкаментаў і медабсталявання.**

* Францыя падпісала дагавор з Украінай аб супрацоўніцтве ў справе забеспячэння бяспекі ядзерных рэактараў. Французскія спецыялісты зоймуцца чарнобыльскім саркафагам, рэактарам у Роўна. Таксама дамовіліся аб утылізацыі ядзерных адходаў.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

# Жыццё ты наша пярэстае... Дзе смешнае, а дзе і не вельмі

**Непрыкметнай жамчужынай роднага краю, цудоўным куткам беларускай прыроды называюць возера Рагазнянскае. А размешчаны тут санаторый «Бярэсце» ўжо многія гады дорыць людзям бадзёрасць і здароўе, пакідаючы ў памяці непаўторныя жывыя малюнкі сустрэч з новымі знаёмымі, якія сталі сябрамі. Цяпер у здраўніцы разам з сельскімі працаўнікамі адпачываюць і лечацца дзеці з раёнаў, накрытых чарнобыльскай хмарай. Гэта надае санаторыю своеасаблівы каларыт, накладвае адбітак на распарадак і нават паводзіны і дарослых, і дзяцей. Я ўпершыню правёў тут свой водпуск. І па звычцы не разлучаўся з блакнотам. Са шматлікіх запісаў адабраў тыя, што найбольш адпавядаюць, на мой погляд, адпускному настрою.**

### БЕЛЫ ГАРЛАЧЫК

Не сказаць, каб санаторскія лодкі і катамараны былі нарасхват. Усё ж 10 рублёў за гадзіну — дарагавата. Але тым не менш у добрае надвор'е яны ходзяць па ўсім возеры з раніцы і да вечара.

І вось аднойчы, ужо бліжэй да вячэры, да прычала прыткнулася лодка, з якой выйшлі мажная жанчына ў купальніку і хлопчык гадоў васьмі. У руках жанчына трымала пяць ці шэсць белых гарлачыкаў з доўгімі сцяблінамі і вялізнымі круглымі лістамі, вырваных дзесьці ў далёкай затоцы. Хлопчык трымаў у далонях толькі бела-зялёны бутончык.

— А вы ведаеце, што белы гарлачык занесены ў Чырвоную кнігу? — спытаў з мастка пажылы чалавек.— Нямнога месц засталося, дзе яны яшчэ растуць. Ды і ў пакоі гэтыя кветкі стаяць не будуць. Навошта ж вы іх загубілі?

— А твая якая справа? — як адрэзала жанчына. — Шкада табе? Вось праз такіх разумнікаў і жыццё ў нас невыносным стала. Усюды свой нос сунуць. У, кансерватары...

### ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КРЫВІНКА

Сонечнай раніцай, калі дарослыя і дзеці высыпалі на лясныя сцежкі, па ўнутраным радыё санаторыя паведамілі: адна з супрацоўніц атрымала моцныя апёкі і патрэбна пераліванне крыві. Добраахвотнікаў прасілі тэрмінова падысці да намесніка галоўнага ўрача, каб адправіцца ў Брэст на пункт пералівання крыві. Згадзілася вялікая група работнікаў санаторыя, некаторыя адпачываючыя. Усе ажыўлена абмяркоўвалі навіну.

— Бабуля, — нецярпліва цярэбіць за рукаў пажылую жанчыну дзяўчынка. — А наша чарнобыльская кроў можа дапамагчы той жанчыне?

— Не ведаю, унучка, не ведаю, — уздыхае бабуля. — Пойдзем спытаем у доктара.

### НЕ ЎСТАЯЛА

На пляжы жанчыны могуць ляжаць гадзінамі, толькі б атрымаць жаданы загар. І размовам няма канца. Прытым, як у цырульні, ніхто з іх не задумваецца, чуе хто-небудзь іх гутарку ці не.

— Перад ад'ездам два тыдні проста вар'яцкімі былі, — расказвае чарнявая жанчына, якая зручна ўладкавалася на пясочку. — Я працую на нафтабазе, канец месяца якраз, і ад просьбаў няма адбою. А з гаручым ведаеш, якая праблема цяпер. Адна справа, што яго не хапае. Але ж не ўсе і аплаціць могуць, а просяць. Разумееш?

— Вядома, — ківае згодна галавой яе слухачка.

— У апошні дзень, думаю, не буду нікому выпісваць. А тут заходзіць такі прадстаўнічы мужчына, вітаецца. Я не звяртаю на яго ўвагі, адмахваюся: «Няма нічога, не прасіце, дайце ў водпуск пайсці спакойна». Ён жа так лагодна адказвае: «А я і не прашу. Прыйшоў пагаварыць з вамі проста так. Дарэчы, вы дзе будзеце адпачываць?» Пагаварылі аб усім пакрысе, а потым ён і гаворыць: «Ведаеце, я дома пчалярствам займаюся, таму дазвольце вам да водпуску прэзенцік паднесці». І, уяўляеш, дастае з сумкі дзве рамкі мёду. Я адну адразу ж прыхавала, а другую, дурная, аддала супрацоўніцам. Тут жа прыкончылі... Ну хіба такому адмовіш?

### ПАЯДЫНАК

Цэлыя чародкі дзікіх качак развяліся на возеры, і ўсе амаль ручныя. Да мастка прыплываюць яны дружнымі сямейкамі, каб атрымаць ежу, прынесеную дзецьмі са сталовай. Тут і маленькія шэрыя камячкі пад наглядам качкі-маці, і зялёнагаловыя качары, якія трымаюцца асобна, і пара грацыёзных лебедзяў.

Вось чорна-белы нырок схапіў скарынку і тарпедай ірвануў убок. Белакрылая чайка нагнала яго, каб адабраць кавалачак. Нырок імгненна схаваўся пад вадой, а чайка, чыркнуўшы крылом па вадзе, узнялася ўверх. Качаня з хлебам у дзюбе вынырнула на адлегласці ад месца атакі, але чайка з развароту яшчэ раз спікіравала на яго. Нырок — зноў пад ваду. Усе з цікавасцю назіралі за гэтым незвычайным паядынкам.

— Вось скнара — не хоча падзяліцца, — папракае нырка дзяўчынка.

— А чаго гэта ён аддаваць будзе? — не пагаджаецца хлопчык. — Качаня само ж здабыло сабе ежу.

— Так, сынок, сёння і трэба, — пыхціць цыгарэтай тата. — Хапнуў — і канцы ў ваду.

### ПРАГА ЖЫЦЦЯ

Цудоўны будынак санаторыя паціхеньку набывае непрыглядны выгляд. Не трымаецца абліцовачная плітка, з'яўляюцца карычневыя плешыны, а рамонт абяцае зацягнуцца да наступнай перабудовы.

Але мяне, прызнацца, здзівіла і ўсхвалявала вось што. Амаль паўметровая кучаравая бярозка моцна ўчапілася каранямі Бог ведае ў што ў цаглянай сцяне на вышыні трэцяга паверха і ўпарта цягнецца ўверх. І расце, зелянее лістотай.

— Глядзі, паразітка, што робіць, — ківае галавой мужчына ў джынсах.

— Ніякая яна не паразітка,—пярэчыць жанчына, — проста вельмі жыць хоча.

### КОЛЬКІ КАШТУЕ РЫБА!

У возеры Рагазнянскім водзіцца рыба, і многія адпачываючыя праводзяць час з вудамі і спінінгамі. Удача, праўда, усміхаецца не ўсім.

І я бачыў, як загарэліся вочы ва ўсіх на беразе, калі з лодкі выйшаў каржакаваты лысы мужчына, трымаючы ў адной руцэ вуды, а ў другой звязку серабрыстых акунёў у кампаніі са шчупаком.

— Слухай, сябра, выручай, — сустракае яго мужчына ў пінжаку і пры шляпе. — Еду дамоў — сам разумееш... Прадай. Па дзесятцы за штуку даю.

— Вось ашчаслівіў, — буркнуў лысы. — На тым беразе я сам па дваццаць плаціў.

### КОЖНАМУ СВАЁ

У дванаццаціпавярховым корпусе санаторыя — два ліфты. Адзін пастаянна псуецца, і каля другога заўсёды чэргі. Асабліва ў гадзіны «пік» — перад абедам, вячэрай, пасля кіно. Па прыступках на верхатуру ісці — задавальнення малавата, таму ўсе дружна чакаюць, нецярпліва націскаючы на кнопку выкліку. І размовы, як заўсёды, самыя розныя.

— Куды гэта ты хадзіў, Іван? — пытаецца мужчына сярэдніх гадоў у хлопца ў майцы з вялікім арлом.

— У «кузню», — адказвае той, мільгнуўшы белазубай усмешкай.

— Гэта магазін, ці што?

— Ведаеш, а пытаешся.

— І што там ёсць?

— Прывезлі «Ядлоўцавую» за 120 рэ, ёсць «Тры сямёркі» па 87 рэ, каньяк...

— Ды я не аб гэтым, — перабівае мужчына. — Ну цукеркі там, каўбаса?

— А гэта не па маёй частцы. Тут я не разбіраюся.

### У БАРЫ

Бар «Барвінак» — элегантны, прываблівы, калі не лічыць шалёных цэн. Падыходзіць падлетак да стойкі і просіць бармена:

— Дайце сок гранатавы, калі ласка.

— Два рублі дзве капейкі.

— У мяне няма дробязі. То вы не даліце мне на дзве капейкі...

### ВАНЯ, САША І МАМА

Са мной за сталом сядзела жанчына з Буда-Кашалёва з двума сімпатычнымі хлопчыкамі— Ваня перайшоў у другі клас, Саша — у пяты. Слаўныя такія хлопцы, паслухмяныя, акуратныя. Што б маці ні сказала — для іх закон, хоць я не чуў, каб яна калі-небудзь павысіла голас. Яны ўставалі ў шэсць раніцы, каб ісці па ягады. Не прасілі бясконца грошай у кіно і на экскурсіі, а чакалі, што скажа мама. У гульнях заўсёды акуратныя і асцярожныя.

Аднойчы ў абед аб'яўляюць па селектару, што ўвечары ў клубе — дыскатэка.

— Мама пойдзе сёння на танцы? — жартуючы, пытаецца ў дзяцей наш сусед па сталу.

— Не пойдзе, — адразу ж адказвае Ваня.

— Чаму ж?

— Татка казаў, каб не хадзіла.

— А з вамі ёй можна пайсці?

— З намі, вядома, можна,— кажа Саша,— папраўляючы акуляры.

### НА ТАНЦАХ

— Скажыце, вы замужам?

— Не... А вы жанаты?

— Тут таксама не.

### МАЛАНКА І ПУЦЁЎКА

— Чулі, якая навальніца ноччу грукатала?— пытаецца за снеданнем мужчына ў акулярах.

— Я спаў, — буркнуў сусед па сталу, моўчкі ачышчаючы сасіску ад абалонкі.

— Ну, гэта бачыць трэба! Маланкі прашывалі неба, гром як пры штурме Берліна. Кажуць, у суседняй Знаменцы два хлявы згарэлі.

— Знайшоў пра што шкадаваць, — не падымаючы галавы, гаворыць незадаволены сусед.— У мяне вось пуцёўка згарэла...

**Пётр СУЦЬКО.**

Брэсцкі раён.

